адна зямля





# Рэгіянальная газета

21 чэрвеня 2013 года
№ 25 (947)

Тэлетыдзень 26

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".


"Мяжа балюча рэжа па сем'ях". Пабачыць родных за 25 еўра

2-я старонка



На рынку гандлююць лісічкамі, здабытымі па-варварску

3-я старонка



**навіны рэгіёна**

## У Сцешыцах пройдзе раённае свята Сёмухі

**ВІЛЕЙКА.** У вёсцы Сцешыцы 23 чэрвеня адбудзецца раённае свята Сёмухі "Тройца, Тройца... – спеў даўніны ў карагодзе зеляніны!". Пачнецца яно ў 13 гадзін. У першай частцы свята пакажуць абрад "Кумленне", прагучаць траецкія песні, у другой пройдзе канцэртная праграма. Яна будзе насычаная гумарам і цудоўнымі канцэртнымі нумарамі, паведаміла метадыст Вілейскага раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці **Тамара Тышкоўская**. Усяго будзе каля сарака нумароў ад калектываў і выканаўцаў клубных установ горада і раёна. Удзельнікі свята пабачаць выставу народнай творчасці і вырабаў майстроў Вілейшчыны, для дзяцей арганізуюць гульнявую праграму.

## У Камарова прыедзе сотня народных майстроў

**МЯДЗЕЛ.** Каля сотні майстроў выказалі жаданне паўдзельнічаць у выставе-кірмашы народных рамёстваў і промыслаў "Камарова – кола дзён". Прыедуць яны як з суседніх раёнаў, так і з далейшых мясцін, паведаміла бухгалтар цэнтра развіцця сельскага прадпрымальніцтва "Камарова" **Наталля Нагорная**. Народныя ўмельцы пакажуць майстар-класы. Пройдзе свята 22 чэрвеня ў вёсцы Камарова. Пачнецца яно ў 12 гадзін.

## Ля Краснага загарэўся прычэп з кардонам

**МАЛАДЗЕЧНА.** Апоўдні ў сераду, 19 чэрвеня, каля вайсковай часці загарэўся прычэп, загружаны кардонам. Кіроўца адчапіў і адагнаў кабіну, каб полымя не перакінулася далей. Як паведаміў інжынер інспекцыі дзяржпажнагляду Маладзечанскага гарраддзела па надзвычайных сітуацыях **Ігар Шыманоўскі**, гасіць полымя давялося каля 30 хвілін. Прычына загарання ўстанаўліваецца.

**Аддзел інфармацыі.**



# Лётчыкі збіліся з маршруту?

**На вёску Шчукі ў мінулую пятніцу з неба падала... прынада ад шаленства**

**ВІЛЕЙКА. З неба над вёскай Шчукі ў пятніцу, 14 чэрвеня, падалі кавалачкі невядомага рэчыва памерам з пачак запалак. Мясцовыя жыхары прынялі іх хто за шакаладкі, хто за кавалачкі золата.**


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Эмілія Брыль са Шчукаў паказвае, адкуль падалі невядомыя рэчывы, падобныя да шакаладак.

Насамрэч Вілейская раённая ветэрынарная станцыя раскідвала над лесам спецыяльныя прынады для дзікіх жывёл, каб ураватаваць іх ад шаленства.

"РГ" пра выпадак расказаў чытач **Генадзь Мандрык**. Ён паказаў і самі прынады: невялікія карычневыя кавалачкі з пахам куратніка.

Каб пачуць гісторыю з першых вуснаў, едзем у вёску Шчукі на Вілейшчыне.

### З неба зваліліся шакаладкі з белай начынкай

– Я працаваў у двары, калі пачуў удары, – распавядае Генадзь Мандрык, які часта прыязджае ў Шчукі да бацькі. – Самалёты тут лятаюць часта, таму не звяртаю на іх увагі. Калі нешта стукнулася аб дах павеці, я спалохаўся. Пасля знайшоў саму прынаду, але не зразумеў, што гэта такое.

На наступны дзень спадар Генадзь павёз яе ў маладзечанскую міліцыю. Там яму параілі напісаць заяву ў тым выпадку, калі прынада нанесла матэрыяльную шкоду.

– Вядома, такая барацьба з шаленствам патрэбная, – далучаецца да размовы яго бацька **Аляксандр Дзянісавіч**. – Але ж трэба папярэджваць людзей!

Незвычайнае здарэнне абмяркоўвала ўся вёска.

– Я фарбавала плот і размаўляла з мясцовымі дачнікамі, раптам пачула, як нешта бахае, – расказвае суседка **Эмілія Брыль**. – Ад даху адскочыла такая шакаладачка маленькая. Унутры было нейкае белае рэчыва. Я паклала яе на плот, за ноч яна і расплавілася.

Пенсіянерка не магла зразумець, што звалілася на яе з неба. Патэлефанавала нявестцы ў суседнюю Вязынь. Тая і патлумачыла ёй, што гэта прынада для жывёл.

– Шчасце, што калодзеж быў закрыты і ў ваду нічога не звалілася, – кажа спадарыня Эмілія. – Лепей, каб нас папярэджвалі пра такія рэчы.

**Эфектыўнасць прынадаў праверанная часам. Сёлета ў Вілейскім раёне не зарэгістравалі ніводнага выпадку шаленства. У мінулым годзе іх было два: пераносчыкамі хваробы былі кот і пацук.**

### Прынады бяспечныя для чалавека

Па каментары "РГ" звярнулася да цёзкі па прозвішчы **Ганны Мандрык**, доктара-эпізаолага Вілейскай раённай ветэрынарнай станцыі.

– Мы актыўна працуем з гэтымі прынадамі ўжо два гады, – кажа спадарыня Ганна. – Двойчы раскідваем іх над лясамі – у вясенне-летні перыяд, а пасля ў асенне-зімні. Раней карысталіся імі рэдка, бо разносілі ўручную. Цяпер нам дапамагаюць самалёты "Беллесавія".

Пачуўшы ад карэспандэнта пра выпадак у вёсцы Шчукі, доктар не паверыла, што такая сітуацыя магла здарыцца.

– Лётчыкі раскідваюць прынаду толькі над лясным масівам! – сцвярджае спадарыня Ганна. – У іх ёсць распланаваны маршрут, карта мясцовасці. Яны не збіваюцца з курсу, самалёт не мог раскідваць прынады над вёскай.

– Сярод дзікіх жывёл шаленства найчасцей пераносяць лісы і янотападобныя сабакі, – зазначае доктар. – Ад іх заражаюцца і каты з сабакамі.

Вучоныя ўжо даказалі, што дзеянне вакцыны, якая знаходзіцца ў прынадзе, дапамагае дзікім жывёлам выпрацаваць імунітэт ад шаленства. Да таго ж ён перадаецца нашчадкам. Гэта дае надзею на тое, што з цягам часу шаленства можа знікнуць з беларускіх лясоў.

– Прынада цалкам бяспечная для здароўя, – кажа Ганна Мандрык. – Яна робіцца з натуральных кампанентаў, з дадаткам мясных выцяжак. Унутры знаходзіцца вакцына. Прынада мае прывабны для жывёл пах. Калі яе з'есць дамашні кот ці сабака, гэта будзе нават карысна.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

ПАМЕЖЖА

# “Мяжа балюча рэжа па сем’ях”

## Пабачыць родных за 25 еўра

**Дзве суседнія вёскі стаяць у паўкіламетры адна ад адной. У абедзвюх жывуць беларусы, часам нават з адной сям’і.**

Але некаторыя з іх не сустракаюцца гадамі: паміж вёскамі праходзіць дзяржаўная мяжа.

Іван Саковіч – адзін з жыхароў літоўскай вёскі Ракі (па-літоўску Ракай), якая знаходзіцца на самай мяжы з нашай краінай. Ракі літаральна акружаныя Беларуссю: з трох бакоў праходзіць дзяржаўная мяжа.

Шукаючы хату Івана Саковіча, мы блукалі па Раках на машыне. “Каля праваслаўнага крыжа павярніце направа, чвартая хата з краю будзе Саковіча,” – на прыгожай беларускай мове з мясцовым адценнем гаворыць суседка. “А які нумар дома?” – пытаемся. “Якія нумары? У нас іх няма”.

Патрэбную вуліцу знаходзім хутка. Каб раскасказаць пра жыццё на мяжы, спадар Іван запрашае ў госці. Утульная вясковая хата сустракае вельмі гасцінна. Памежжа адчуваецца ўжо на кухні: на стале стаіць літоўскі і беларускі цукар, літоўская і беларуская налівкі.

### “Браты не прыязджалі да мяне ўжо дзесяць гадоў”

Спадар Іван у Раках з 1997 года. Тут ён і нарадзіўся, але вучыўся і служыў у Беларусі, пасля жыў у суседняй з Ракамі літоўскай вёсцы.

Цяпер жыве ў хаце, якую набыў у старэйшага брата. Сам брат паехаў у Беларусь. Жонка Івана пасля разводу разам з дачкой вярнулася ў Беларусь, а Іван з сынам засталіся ў Літве.

Спадар Іван прыняў літоўскае грамадзянства. Ён узяў яго спецыяльна, каб дзеці мелі двайное – літоўска-беларускае. Тады яны маюць два пашпарты, і ім не трэба віза.

Цяпер сыну 18 гадоў, але ён не вызначыўся, з якой краінай звязаць свой лёс. Падчас нашай размовы сын выходзіць з хаты:

– Тата, я паехаў на Беларусь, – кажа ён.

– У яго ў суседняй беларускай вёсцы знаёмыя дзяўчаты, – усміхаецца тата. – Цяпер ён машынай ездзіць, а раней я рабіў спецыяльны дакумент, каб ён мог перасякаць мяжу без суправаджэння дарослых, і сын ездзіў на ровары.

Родныя браты Івана жывуць у вёсках Дудкі (5 км ад мяжы) і Першамайск (10 км ад мяжы) Шчучынскага раёна.

– Мы сустракаемся, размаўляем па тэлефоне, – кажа спадар Іван. – На жаль, цяпер толькі я магу ездзіць да іх, бо маю візу. Браты не былі ў Раках ужо дзесяць гадоў. Праблема нават не ў тым, што візы дарагія. Атрымаць іх вельмі складана: шмат бюракратычных перашкодаў, доўгія чэргі.

### Пяць гадоў змагаліся за магчымасць хадзіць у госці

Усяго пяць гадоў таму жыхарам суседніх памежных вёсак было складана прыйсці адзін да аднаго ў госці, нават маючы візы. Бліжэйшы пункт перасячэння мяжы знаходзіўся за 50 кіламетраў.

Праблема вырашылася пасля пяцігадовага змагання Івана Саковіча. Ад 2003 да 2008 года ён няспынна пісаў лісты ў амбасады і міністэрствы з просьбай дапамагчы адкрыць пункт спрошчанага перасячэння мяжы ў Раках. Ад 2008 года такі пункт працуе.

**Усяго існуе шэсць спрошчаных пунктаў на беларуска-літоўскай мяжы.**

Вядома, наяўнасць пункта перасячэння не пазбаўляе жыхароў ад неабходнасці рабіць візы. Аднаразовая беларуская віза абыходзіцца ў 25 еўра, шматразовая на адзін год – 150 еўра. Памежны пераход працуе ў пятніцу, суботу і нядзелю ад 11 да 16 гадзін.

– Гэты пераход – наш сапраўдны гонар, – кажа Іван Саковіч. – Хоць ён і працуе тры дні на тыдзень. Пры перасячэнні мяжы ставяць штамп у пашпарт. Мне, напрыклад, пашпарта хапае на два гады – пасля і штампы ставіць няма куды.

Мы пад’язджаем да пункту пераходу – у час нашага прыезду ён не працуе. Нас сустракае металічны плот, шлагбаўм, літоўскі сцяг, пустыя пункты праверкі пашпартоў.

Далей уздоўж усёй мяжы стаіць плот з калючым дротам. За ім – два метры ўзаранай зямлі. Калі нехта і пераскочыць праз плот, то абавязкова пакіне на ёй сляды. Па мяжы рэгулярна, у тым ліку і ноччу, ходзяць памежнікі.

**– У мяне ж беларускі пашпарт, магу зараз на адну хвілінку на радзіму зазірнуць,** – жартую я.

– Цябе не прапусцяць, – супакойвае мой пыл спадар Іван. – Акрамя візы трэба яшчэ і пацвярджэнне таго, што ты жывеш у памежнай вёсцы. Таму беларускія памежнікі тут не пусцяць ні жыхара Вільні, ні нават цябе, беларуску. Пакуль памежжа вызначаецца пяцікіламетровай аддегласцю ад мяжы да вёскі.

Мне застаецца стаяць на тэрыторыі Літвы і глядзець, як за плотам стаяць ужо беларускія


Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Беларус Іван Саковіч дапамагае аднавяскоўцам атрымліваць беларускія візы.

хаты. Да іх літаральна пару метраў, але ісці туды нельга.

Як адчуваюць сябе тыя, каго гэтыя пару метраў адрываюць ад братоў і сясцёр, бабуль і ўнукаў – цяжка ўявіць.

**– А вы можаце са сваімі роднымі размаўляць праз плот – яны ў Беларусі, а вы ў Літве?**

– Тэарэтычна гэта магчыма, – адказвае спадар Іван. – Але падыходзіць да мяжы – парушэнне закона. Напрыклад, маё поле, дзе я пасадзіў грэчку, ідзе да плота. Там я маю права падыходзіць да мяжы.

### Мяжа між Літвой і Беларуссю з’явілася за адну ноч

– Я памятаю сваю маладосць, – успамінае спадар Іван. – Мяжы не было, літоўцы і беларусы хадзілі адзін да аднаго на танцы. Вось гэта было жыццё! Мяжа падзяліла нас рэзка і вельмі балюча.

Гаспадар узгадвае, як доўга мясцовыя жыхары не маглі прыняць межаў. Яны працягвалі ісці да сваіх родных насуперак новым правілам.

– Так, яны парушалі закон, але не маглі інакш, – кажа ён. – Супраць іх нават прымалі рэпрэсіўныя меры. У мяне недзе захаваліся стужкі з шыпамі, якія клалі на дарогі, каб прабіць колы.

У кожнай сям’і з’яўленне межаў перавярнула паўсядзённае жыццё.

– Я памятаю 15 красавіка 2003 года, – узгадвае спадар Іван. – Мы жылі ў Раках, мая жонка працавала ў школе на тэрыторыі Беларусі. Тады Літва толькі ўвайшла ў ЕС. У той дзень яна пайшла на працу і ўбачыла, што мяжа закрыта. Нас нават не папярэдзілі! Бліжэйшы памежны пераход быў у суседнім раёне. Пяць вёсак этнічных беларусаў за адну ноч адрэзалі ад родных! У выніку жонка згубіла працу, а сын змяніў школу.



Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Дзяржаўная мяжа падзяліла не адну беларускую сям’ю.

Жонка Івана не змагла прыстасавацца да новага жыцця. Літоўскую мову яна не ведала, а без яе не магла працаваць на тэрыторыі Літвы. У выніку сям’я распалася і цяпер жыве па двух баках мяжы.

### Балюча бачыць, як выракаюцца сваіх каранёў

На пытанне аб нацыянальнасці гаспадар адказвае ўпэўнена.

– Я беларус, – кажа Іван Саковіч. – Я вельмі ўдзячны Літве, я паважаю гэту краіну. Але назаўсёды застануся беларусам. Вёскі навокал – Боўбаты, Кавалькі, Парамок, Катра – чыста беларускія. У іх усе гавораць па-беларуску.

Паказваючы мясцовыя могілкі, ён звяртае ўвагу на мовы, на якіх зроблены надпісы на помніках.

– Бачыце, прозвішча Ланеўскіс, – паказвае спадар Іван. – Вядома, гэта наш Ланеўскі, але запісана па-літоўску. Сумна, калі выракаюцца сваіх каранёў, не памятаюць роднага. Але ж кожнаму сваё.

**– Напэўна, усе мясцовыя жыхары чакаюць, пакуль пачне працаваць малы памежны рух,** – кажу яму.

– Вёска паступова вымірае. Пакуль кіраўніцтва гадамі разглядае новыя законы, тут ужо і чакаць няма каму, – уздыхае Іван Саковіч.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

СПАЖЫВЕЦ

# Гандлююць лісічкамі, здабытымі па-варварску



Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

На рынку нямала зусім маленькіх лісічак.

**МАЛАДЗЕЧНА. "Хіба ж можна збіраць настолькі маленькія лісічкі, – сказаў абураны маладзечанец пенсіянер Іван Лось, зайшоўшы да нас у рэдакцыю. – Няўжо можна знішчаць прыроду?". І мы вырашылі высветліць, ці сапраўды так адбываецца.**

Грыбны сезон ужо пачаўся. Сведчанне гэтаму – прыдарожныя прадаўцы. Лісічкі з'явіліся недзе ўжо тыдзень таму. На рынку райспажыўтаварыства ў Маладзечне з пяцёра прадаўцоў гандлююць грыбамі.

– Колькі лісічкі? – пытаюся ў пажылой жанчыны ў хустачцы, якая ажно на зямлю выставіла празрыстую пластмасавую ёмістасць з грыбамі.

– Паўлітровы слоік – 28 тысяч рублёў. Цэлую раніцу збірала, купляйце, дзяўчына, грыбочкі чыстыя, – адказвае мне гандлярка.

Сумневы мае, аднак, выклікала зусім іншая рэч: лісічкі прадаюць вельмі дробныя. Па сантыметры ў дыяметры, а то і менш. Здалёк нават не зразумела, ці грыбы гэта? Няўжо такую дробязь можна прадаваць?

– Нельга збіраць лісічкі з памерам шапак менш за паўтара сантыметра, да таго ж забаронена разграбаць лясную падсцілку, – кажа галоўны спецыяліст Маладзечанскай райінспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Сяргей Танана.** – За парушэнне гэтых патрабаванняў прадугледжаны штраф да 20 базавых велічынь.

Згодна з "Правіламі збору, нарыхтоўкі і закупкі дзікарослых раслін", нельга наносіць шкоду грыбніцы. А каб яе не пашкодзіць, неабходна грыбы зразаць нажом ці асцярожна іх выкручваць з зямлі. Вырываць грыбы з зямлі нельга: ад гэтага пашкоджваецца не толькі грыбніца, але і зародкі будучых грыбоў.

Але ў пагоні за грашыма гандляры не вельмі клапоцяцца пра ўраджай, раз вырываюць з зямлі нават самыя маленечкія грыбкі. І штрафаў, мабыць, яны не баяцца, раз у кожнага прадаўца на рынку палова слоіка дробязі.

### Як нельга збіраць ягады

Ягады таксама трэба збіраць асцярожна, каб не пашкодзіць ягаднікі. Нельга збіраць недаспелыя брусніцы і журавіны. Недапушчальна, каб у вядры было назбірана больш за адзін працэнт недаспелых брусніцаў і больш за пяць працэнтаў недаспелых журавін.

На падыходзе ўжо і чарніцы. Іх нельга збіраць "камбайнамі", каб не пашкодзіць куст.

У сваю чаргу Маладзечанская райінспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя абяцае кантраляваць і сачыць за прадаўцамі, якія гандлююць грыбамі маленькага памеру і няспелымі ягадамі.

### Забаронена гандляваць ландышамі

На рынку, акрамя грыбоў, гандлююць ландышамі. Яны занесеныя ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь. Зрываць іх, а да таго ж гандляваць імі, забаронена.

– Ландышамі са свайго двара можна гандляваць, – кажа спадар Сяргей. – Але вельмі цяжка даказаць, што кветкі прадаюць не з лесу. Толькі вельмі разумны батанік можа вызначыць, адкуль гэтыя ландышы. Тым больш, ландышаў цяпер развялося шмат. І ў хуткім часе яны могуць быць выкрасленыя з Чырвонай кнігі.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

| Курсы валют НБ РБ | 13.06 | 20.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 720,00 | **8 720,00** |
| Еўра | 11 620,00 | **11 680,00** |
| Злоты | 2 724,74 | **2 743,86** |
| Літ | 3 357,53 | **3 382,14** |
| Расійскі рубель | 270,00 | **271,50** |
| Грыўня | 1 070,92 | **1 068,63** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8720/8760 | **8730/8790** |
| Еўра | 11570/11650 | **11550/11700** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 12.06 | 19.06 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 113800 | **112900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 46400 | **43800** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 54300 | **48000** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 83000 | **85000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 26000 | **26900** |
| **Шашлык, паўфабрыкат**, 1 кг | 54900 | **51000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23000 | **23500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 28800 | **28000** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10100 | **9800** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9950 | **9000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 9500 | **9500** |
| **Алей** | 14800 | **16000** |
| **Маянэз**, 200 г | 5200 | **4850** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7800 | **7200** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9300 | **8900** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 8500 | **9000** |
| **Капуста**, 1 кг | 8000 | **6000** |
| **Морква**, 1 кг | 11800 | **15000** |
| **Буракі**, 1 кг | 5000 | **13000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20000 | **20000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 12500 | **13500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 29800 | **25000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 14500 | **15000** |
| **Клубніка, 1 кг** | - | **15000** |
| **Чарэшня, 1 кг** | - | **36000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 7000 | **4500** |
| **Перац**, 1 кг | 38000 | **27000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 26000 | **27000** |
| **Бананы**, 1 кг | 11500 | **11900** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 9500 | **11000** |
| **Грушы**, 1 кг | 25000 | **22000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 60000 | **60000** |
| **Тварог**, 1 кг | 35000 | **35000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 16000 | **15000** |
| **Сала**, 1 кг | 45000 | **50000** |
| **Бульба маладая**, 1 кг | 15000 | **12000** |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **50000** |

ЦЭНТР СТАНДАРТЫЗАЦЫІ І МЕТРАЛОГІІ ІНФАРМУЕ

## Знайшлі піцы без маркіроўкі

**МАЛАДЗЕЧНА. У цэнтры стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі правялі праверку і маніторынгі ў гандлёвых крамах і на рынках.**

Спецыялісты глядзелі, ці была інфармацыя для спажыўца на прадуктах. А таксама на тое, ці наносяць яны шкоду здароўю чалавека.

Калі правяралі аднаго з вытворцаў піцы, заўважылі, што яе пастаўляюць спажыўцу без маркіроўкі.

Адсутнічае этыкетка, на якой павінны быць пазначаныя назва і месцазнаходжанне вытворцы, найменне кулінарнай прадукцыі, дата і гадзіна вырабу, яе маса, тэрмін прыдатнасці і іншае.

На піцу не афармлялі дакументы, якія б сведчылі пра якасць і бяспеку прадукцыі.

У іншых гандлёвых месцах часцей за ўсё не выконваюць стандарты па захаванні ежы. У некаторых крамах адсутнічаюць прыборы для кантролю тэмпературы і вільготнасці паветра. У халадзільніках няправільны тэмпературны рэжым. З-за гэтага мяса, рыба, кілбаса хутка псуюцца.

Таму, паважаныя спажыўцы, звяртайце вашу ўвагу на інфармацыю на прадукцыі – гэта важна для вашага здароўя.

**Людміла ШЧАЮК, вядучы дзяржаўны інспектар па наглядзе за тэхнічнымі рэгламентамі і стандартамі РУП "Маладзечанскі ЦСМС".**

# Пасвянцілі небяспечныя перакрыжаванні



Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

Пасвянціўшы перакрыжаванні, дзяржаўтаінспектары разам са святарамі прапаноўвалі абразкі кіроўцам.

**МАЛАДЗЕЧНА. Акцыя прайшла ў аўторак, 18 чэрвеня.**

Такое своеасаблівае мерапрыемства арганізавраў маладзечанскі РАУС разам са святарамі.

Першае перакрыжаванне, якое пасвянцілі, – Зялёны Гарадок. Затым перакрыжаванні каля "Бярозкі", на вуліцы Касманаўтаў, Гарадоцкай, каля стэлы.

Ля кожнага святары чыталі малітву. Потым на хвіліну супрацоўнікі ДАІ перакрывалі дарогу, але ніякай перашкоды для кіроўцаў не было. Святары ў сваю чаргу свянцілі з чатырох бакоў дарогу.

Каля стэлы адбылася памінальная паніхіда па загінулых у аварыях.

Пасля супрацоўнікі ДАІ прыпынялі машыны, а святары ўручалі абразкі і давалі наказ на дарогу кіроўцам.

– Акцыя праводзіцца для таго, каб людзі, калі садзяцца за руль, думалі не толькі пра сябе, але і пра сваіх блізкіх, – кажа благачынны Маладзечанскай царкоўнай акругі, протаіерэй **Віталь Багданёнак**. – Я ўсё разумею, лета, гонкі, хочацца праехацца з ветрыкам. І ўсё ж неабходна думаць і пра наступствы.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

ПРАКУРАТУРА, СУД

## Зноў пачаў піць і забіў роднага брата

**АШМЯНЫ. Два браты ажаніліся з дзвюма сёстрамі. Адзін з іх неадночы ратаваў швагерку ад п'янага брата, пакуль той урэшце не схапіўся за нож.**

Ноччу 15 студзеня Вацлаў І. ўдарыў свайго брата Станіслава кухонным нажом у жывот. З-за моцнага крывацёку брат памёр на наступны дзень у бальніцы хуткай дапамогі ў Мінску.

Суд па гэтай справе адбыўся ў маі.

Станіслаў ажаніўся з Ганнай, Вацлаў – з Ірынай. Станіслаў з Ганнай прыязджалі супакойваць сваяка, калі той скандаліў.

За чатыры месяцы да здарэння Вацлаў праляччыўся ад алкагольнай залежнасці. Але ад 12 студзеня зноў пачаў піць.

15 студзеня ў нецвярозым стане ён пачаў чапляцца да жонкі. Узнікла сварка. Тады Ірына патэлефанавала сястры, паскардзілася на мужа і папрасіла сваякоў прыехаць.

Мужчына быў на кухні, калі ўвайшоў Станіслаў са сваёй жонкай. Яны пачалі выхоўваць Вацлава.

Ганна пачала трэсці яго за адзежу і казаць, што той ужо ўсім надакучыў. А пасля падышоў Станіслаў, схапіў брата за адзенне і адштурхнуў яго ў кут.

Вацлаў упаў на падлогу. Падняўшыся, ён, перапоўнены крыўдай, прамовіў: "Я вам зараз устрою". Пабег да тумбачкі, схапіў нож і паварнуўся да іх. Ганна ад страху тут жа схавалася за мужа. Раз'юшаны Вацлаў ударыў Станіслава. Адчуўшы, што прапароў жывот, спалохаўся і кінуў нож.

Сваякі завезлі параненага ў бальніцу, дзе таго шпіталізавалі ў рэаніманцыю. Ён перанёс некалькі аперацый, але памёр.

Зразумеўшы, што нарабіў, Вацлаў пайшоў у бальніцу да брата, дзе яго сустрэла міліцыя.

Ганна не патрабавала аб кампенсацыі маральнай і матэрыяльнай шкоды. Яна прасіла суд аб літасці.

Асуджанаму 48 год. Раней не судзімы. Жанаты, мае дзіця. Працуе слесарам у Ашмянскай жыллёва-камунальнай гаспадарцы.

Суд прызнаў яго вінаватым у нанясенні цяжкага пашкоджання, якое прывяло да смерці па неасцярожнасці. Суд прызначыў пакаранне – пазбаўленне свабоды на шэсць год выпраўленчай калоніі ўзмоцненага рэжыму.

**Аляксандр ЛЯХ, памочнік пракурора Ашмянскага раёна.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## З'ехаў у канал у Вязынцы і патануў

**МАЛАДЗЕЧНА. Вераґодна, 29-гадовы жыхар Мінскага раёна змагаўся за жыццё, спрабаваў выбрацца праз бакавое шкло, але не змог даплыць да берага.**

Здарэнне адбылося каля 16 гадзін у суботу, 15 чэрвеня, каля помпавай станцыі ў Вязынцы.

Кіроўца легкавога аўтамабіля не даў рады на крутым павароце і з'ехаў у канал. Яго шырыня 14 метраў, глыбіня тры. Аўтамабіль быў у сямі метрах ад берага.

Відавочцы паведамілі, што кіроўца сам выбраўся праз бакавое шкло. Але не змог даплыць да берага і патануў.

У 20.40 выратавальнікі знайшлі цела патанулага.

Дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош** адзначае, што пакуль не ўстаноўленая прычына смерці. Нягледзячы на словы відавочцаў, нельга сцвярджаць, што кіроўца патануў. Экспертыза яшчэ выяўляе, што стала прычынай смерці: ці кіроўца патануў, ці загінуў падчас аварыі ад удару.

– Яшчэ трэба ўстанавіць, як мужчына наогул трапіў на тэрыторыю, – дадае Сяргей Бартош. – На ўездзе стаіць шлагбаўм, рух на тэрыторыі забаронены.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Скралі машыну, падазраваны – сам гаспадар

**АШМЯНЫ.** Ноччу з 10 на 11 чэрвеня з мытнага склада часовага захоўвання скралі грузавік "МАН".

Як распавёў намеснік начальніка ашмянскага аддзела Следчага камітэта **Віктар Мацэвіч**, злачынца распілаваў металічныя мацаванні пліты агароджы. Праз адтуліну і выехаў грузавік.

На гэтай стаянцы захоўваюцца аўтамабілі, якія затрымалі на мяжы, пакуль іх правяраюць.

Злачынства нераскрытае. А падазроны – сам гаспадар грузавіка, жыхар Расіі.

Крымінальную справу ўзбудзілі 11 чэрвеня па артыкуле "Крадзеж".

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Скралі прадукты з летніка

**ВАЛОЖЫН.** "Пежо" з прадуктамі выязджала са спартыўна-аздараўленчага летніка каля 21 гадзіны ў суботу, 15 чэрвеня.

Міліцыянеры затрымалі машыну. Кіроўцам быў жыхар вёскі Выганічы.

Ён па просьбе 29-гадовага повара, што працаваў у летніку, вывозіў прадукты.

Прадуктаў было не менш чым на паўмільёна.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Ля Свіры патануў мужчына

**МЯДЗЕЛ.** 14 чэрвеня на рацэ Свірыца паблізу пасёлка Свір патануў 33-гадовы мужчына.

Паведамленне пра тое, што тоне чалавек, паступіла ў цэнтр аператыўнага кіравання райаддзела па надзвычайных сітуацыях у 16.08. На нумар "101" патэлефанавала жанчына.

Выратавальнікі прыбылі праз дзве хвіліны. З тлумачэнняў відавочцаў высветлілі, што кампанія адпачывала на беразе ракі. Затым 33-гадовы мужчына вырашыў пакупацца. Праз некаторы час сябар заўважыў, што ён пачаў тануць і паспрабаваў яго выратаваць. Аднак дапамагчы не ўдалося.

У момант прыбыцця групы выратавання на вадзе патанулага на паверхні вады не было. Неўзабаве ў пяці метрах ад берага на глыбіні два метры знайшлі цела мужчыны.

## Хлопчык апёк нагу з-за дурасці сябра

**АШМЯНЫ.** Паведамленне аб тым, што ў бальніцу з апёкамі правай нагі трапіў 10-гадовы хлопчык, паступіла выратавальнікам ад медсястры раённай бальніцы каля 21 гадзіны ў чацвер, 13 чэрвеня.

Хлопчык з вёскі Навасёлкі каля 18 гадзін гуляў на падворку з сябрам. Пасля той кінуў у палаючую топку кормазапарніка напалову поўную бутэльку з бензінам, што застаўся ад запраўкі бензапілы.

З-за выбуху хлопчык атрымаў апёкі 1-3 ступеняў правай нагі (на 9% цела). Яго шпіталізавалі. Бацькі ў гэты час былі ў хаце.

Паважаныя дарослыя? Паводле статыстыкі, менавіта ў час летніх канікулаў павялічваецца колькасць здарэнняў, у якія трапляюць дзеці.

**Паводле Мінскага абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях.**

СЛУЖБА 101

## На пажары выратаваліся дзед з унучкай

**ВІЛЕЙКА. Каля дзвюх гадзін ночы 17 чэрвеня паступіла паведамленне аб загаранні лецішча ў вёсцы Навасёлкі Хаценчыцкага сельсавета.**

На выклік накіраваліся пяць аўтацыстэрн і машына "хуткай дапамогі". Драўлянае лецішча гарэла адкрытым полымем. Людзей у доме ўжо не было. У выніку пажару агнём знішчаны дах па ўсёй плошчы будынка, дом выгараў знутры.

У доме начавалі 72-гадовы мужчына (бацька гаспадара) і яго 6-гадовая ўнучка. Мужчына патлумачыў, што прачнуўся ноччу ад трэску шыферу. Калі адчыніў дзверы, на яго шуганула полымя. Дзед і ўнучка вылезлі праз акно.

Мужчына атрымаў тэрмічныя апёкі галавы і кісцей рук, паведаміў інспектар Дзяржпажнагляду Вілейскага райддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш.**

**Аддзел інфармацыі.**

АДУКАЦЫЯ

# Прайшло тэставанне па беларускай мове

**МАЛАДЗЕЧНА. У пятніцу, 14 чэрвеня, выпускнікі школ здавалі першае тэставанне – па беларускай мове.**

Каля 1 500 чалавек сабраліся раніцай ля Маладзечанскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа.

Ахвотных здаваць тэст па беларускай мове зарэгістравалася ў Маладзечне 1 тысяча 836 чалавек, здаваць рускую мову зарэгістраваліся 1 тысяча 954 чалавекі.

Летась адпаведныя лічбы былі наступнымі: 2355 і 2163.

Пра гэта нам паведаміў намеснік старшыні арганізацыйнай камісіі па правядзенні цэнтралізаванага тэставання **Юры Якуновіч**.

**Наталля ХАРЫТОНАВА.**



Фота Наталлі ХАРЫТОНАВАЙ.

Сёлетнія абітурыенты чакаюць тэставанне па беларускай мове.

## Пасля прафесійна-тэхнічнага каледжа без працы не застанецеся

**МАЛАДЗЕЧНА. "РГ" вырашыла даведацца, якія ўмовы трэба выканаць, каб патрапіць у Маладзечанскі дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж.**

Калі вы вырашыце звязаць сваё жыццё з каледжам і за вашымі плячыма ўжо ёсць базавая ці агульная сярэдняя адукацыя, то неабходна паспець у перыяд ад 15 чэрвеня да 20 жніўня падаць дакументы.

### Працу знойдуць усе выпускнікі

Паводле слоў сакратара прыёмнай камісіі **Валерыя Дрокіна**, самымі запатрабаванымі спецыяльнасцямі лічацца тынкоўшчык, абліцоўшчык, плітачнік, маляр, а таксама повар і афіцыянт.

Сярэдні бал для паступлення на іх павінен быць каля 6.

Калі ж у вас ён ніжэйшы, то можна паспрабаваць паступіць на іншыя спецыяльнасці, напрыклад, прадаўца ці слесара. Як кажуць абітурыенты, на іх можна прэтэндаваць, маючы сярэдні бал каля 4.

Вучыцца пасля 9 класаў прыйдзецца амаль тры гады, як бонус, вы можаце разлічваць на бясплатныя абеды.

Калі вы маеце агульную сярэднюю адукацыю, то тэрмін навучання скарачаецца да двух гадоў, а навучэнец забяспечваецца стыпендыяй амаль у 400 тысячаў рублёў.

У залежнасці ад апетыту, стыпендыі можа хапіць прыкладна на 25 абедаў у сталоўцы.

– Усе выпускнікі знойдуць працу, – упэўнены Валеры Дрокін. – Заяў ад прадпрыемстваў з просьбай размеркаваць спецыялістаў больш, чым мы можам задаволіць. Размяркоўваем у той раён, адкуль навучэнец прыехаў.

### Па-за межамі вучобы

Іншагародніх забяспечваюць месцамі ў інтэрнаце, які выглядае даволі прыстойна: чыстыя калідоры, нечакана шмат кветак. Большасць пакояў летам зачынена, таму ацаніць усё не атрымалася.

Але не ўсе навучэнцы падзялялі мой аптымізм. Яны казалі, што інтэрнат не вельмі падабаецца, але не ўдакладнялі, якія той мае хібы.

Маладзечанскі дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж ганарыцца сваімі спартыўнымі дасягненнямі. Уразіла вялікая колькасць дыпломаў і іншых спартыўных узнагарод.

Паводле слоў Валерыя Дрокіна, тут ёсць вялікая колькасць разнастайных гурткоў і секцый.

Яны, хочацца верыць, карыстаюцца попытам у большай часткі навучэнцаў. Кожны год праводзяцца абласныя спартакіяды сярод навучэнцаў каледжаў, на якіх маладзечанцы неаднаразова былі пераможцамі.

**Яўген КАРОСЦІК.**

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

## На новыя могілкі ў вёсцы Ілья могуць заходзіць і каровы

**ВІЛЕЙКА. Могілкі абгароджаныя і прыбраныя толькі з парадднага боку. З боку фермы няскошаная трава, усё зарасло бур'яном.**

Пра гэту праблему паведамілі "РГ" чытачы.

Замест агароджы там маленькія калкі, адлегласць паміж імі каля пяці метраў.

– Між імі нават танк прайсці можа, не тое, што карова, – кажа жыхар вёскі Ілья. – Я жыву непадалёк ад могілак, і мне ўсё бачна. Цяпер на ферме кароў 12. Ферма прадае свежае цёплае малачко па чатыры тысячы за літр. Гэта, вядома, добра, але калі кароў гоняць на пашу, ім нічога не перашкаджае, каб зайсці на могілкі і нагадзіць там.

Мясцовыя жыхары сцвярджаюць, што прыходзяць памянуць сваякоў і бачаць на могілках сляды "візітаў" кароў. І моўчкі прыбіраюць іх.

Прыкладна два тыдні таму прыбралі і вялікую звалку, якая знаходзілася якраз каля могілак.

Першыя пахаванні на гэтых ільянскіх могілках былі ў 1998 годзе.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**



Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

З боку фермы агароджа стаіць толькі на часткі могілак.

АДПАЧЫНАК

## Конкурс сярод аздараўленчых лагераў

**МЯДЗЕЛ. У райцэнтры ў аўторак сярод аздараўленчых лагераў прайшоў раённы конкурс дзіцячых забаўляльна-гульнявых праграм "Нясумныя канікулы".**

Удзельнічалі ў ім прадстаўнікі ўстаноў адукацыі з розных куткоў Мядзельшчыны.

Свае праграмы яны дэманстравалі на сцэне амфітэатра. Праводзілі з дзецьмі розныя гульні, конкурсы. Вучні пераўвасабляліся і ў казачныя персанажы, і ў Каралеву Вялікабрытаніі – гэткі сцэнарый падрыхтавалі ўдзельнікі лагера "Лінгвісцёнак" з гімназіі-інтэрната.

Ацэньвала выступленні дарослае і дзіцячае журы. Лепшых адзначылі ў трох намінацыях: сюжэтная гульнявая, танцавальна-забаўляльная і конкурсная праграмы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Моманты конкурсу.

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

## Нацюрморт у бетоне ўпрыгожыў Вілейку

**ВІЛЕЙКА. Адну з галоўных вуліц Вілейкі, 17-га Верасня, у сераду ўпрыгожыла новая скульптура, аўтар якой Валеры Апарык, інжынер-скульптар Вілейскай ЖКГ.**

У кошыку для кветак размясціліся яблык з чарвяком і груша. Такі нацюрморт выраблены з бетону. Пра гэта рэдакцыі паведаміў дырэктар Вілейскай ЖКГ **Віктар Паўлоўскі.**

Раней у Вілейцы былі ўстаноўленыя скульптуры Дворніка і Лесуна, якія таксама нарадзіліся ў майстэрні Валерыя Апарыка.

**Аддзел інфармацыі.**

# алми

## СЕТЬ МАГАЗИНОВ

**ГАСТРОНОМ УЛ. Ф. СКОРИНЫ, 28**
**УНИВЕРСАМ УЛ. ВЕЛИКИЙ ГОСТИНЕЦ, 136**

| Цена | Скидка | Товар |
|---|---|---|
| 3900 | 20% | Мороженое ванильное в вафельном рожке рожке Юмо 100г РФ Фисташки/Клубника |
| 1950 | 20% | Продукт йогуртный Альпенгурт жир.0.1% 100г РФ В ассортименте |
| 9700 | 15% | Сметана Бабушкина крынка жир.26% 400г РБ |
| 12900 | 15% | Сыр Гауда жир.45% 150г РБ |
| 19900 | 25% | Тушка цыплёнка-бройлера 1кг РБ |
| 34900 | 15% | Колбаса вареная мясная Молочная Закрама в/с 1кг РБ |
| 65900 | 20% | Рулет к/в Фирменный 1кг РБ |
| 48900 | 30% | Колбаса в/к салями Сервелат Янтарный в/с 1кг РБ |
| 16900 | 20% | Камбала с/м 1кг РФ |
| 12900 | 25% | Фигурные рыбные бургеры Вичи 500г РФ |
| 31500 | 30% | Лещ подкопченный потрошеный 1кг РБ |
| 7950 (только в универсаме) | 30% | Оливки/Маслины Трансформадо 300г Испания В ассортименте |
| 13900 (только в универсаме) | 20% | Рис Сан Райс Жасмин 800г Вьетнам |
| 6900 | 20% | Макаронные изделия Паста Прио 450г РФ В ассортименте |
| 4300 | 20% | Кетчуп Щедро Чили 300г Украина |
| 6500 (только в универсаме) | 20% | Смесь Магги на второе 38г РФ Для сочной курицы/Для сочного мяса |
| 3800 (только в универсаме) | 15% | Сок Агуша 200г РФ Груша/Яблоко/Яблоко-персик/Яблоко-банан |
| 6500 | 30% | Сок Лето Томатный с мякотью/Нектар Лето Яблочный 1л РБ |
| 3900 | 25% | Вода минеральная газированная лечебно-столовая Алми 1.5л РБ |
| 16500 (только в универсаме) | 20% | Чай Чайная коллекция 100г РБ В ассортименте |
| 14900 | 20% | Кофе растворимый сублимированный Якобс Монарх 40г РФ |
| 5250 (только в универсаме) | 25% | Халва подсолнечная 200г Украина Ванильная/Сахарная |
| 16300 | 25% | Драже в шоколаде Микс 200г РБ Миндаль/Лесной орех |
| 5200 | 25% | Вафли Вереск 210г РФ В ассортименте |
| 4900 (только в универсаме) | 25% | Рулет бисквитный Яшкино 200г РФ В ассортименте |
| 5950 | 25% | Зефир Ванильный Красный пищевик 250г РБ |
| 11850 | 25% | Жевательная резинка Дирол 4*13.6г РФ В ассортименте |
| 3700 | 25% | Чипсы картофельные Мегачипсы Премьер 70г РБ В ассортименте |
| 5950 | 20% | Семечки подсолнечника белые жареные с солью Алми 120г РБ |
| 2150 | 20% | Салфетки влажные Ультра Компакт Фрутис 15шт Турция В ассортименте |
| 7700 | 25% | Прокладки Хэлен Харпер Софт Ультра-тонкие 8-10шт Чехия Нормал/Супер |
| 12400 | 25% | Мыло Дуру 4шт*90г Турция Комфорт/Наслаждение/Свежесть |
| 16900 | 25% | Средство для стирки Хэлп 1л РФ Для цветных тканей/Для белого |
| 30500 (только в универсаме) | 25% | Ополаскиватель-концентрат Глобал Софин 2л Польша В ассортименте |
| 21500 | 25% | Средство моющее Фэйри 1л РФ В ассортименте |
| 20900 (только в универсаме) | 25% | Дезодорант-антиперспирант шариковый Нивея 50мл Германия В ассортименте |

ООО «Торгпин», Лиц.50000/26251 выд. Мингорисполкомом от 23.05.2012 по 20.06.2022, УНП 190679197.

товар, отмеченный данным ценником, реализуется в гастрономе: г. Молодечно, ул. Ф. Скорины и в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

товар, отмеченный данным ценником, реализуется только в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

**ЦЕНЫ ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫ С 19 ИЮНЯ ПО 2 ИЮЛЯ 2013 ГОДА**

Количество товара ограничено. Товар подлежит обязательной сертификации. Скидки по дисконтным картам на товары, участвующие в акции, не предоставляются.
Внешний вид товаров, представленных на фотографиях, может несколько отличаться от товаров, выставленных в торговом зале.
При расхождении цен, указанных в листовке и магазине, верными считать цены в магазине.

**ЖЫХАРЫ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ, АСТРАЎЦА І АСТРАВЕЦКАГА РАЁНА могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.**

**☎166**

**Размясці сваю аб'яву не менш за тры разы, і яе прачытаюць у Інтэрнэце на сайце RH.by**

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| Астравец | - 01591, |
| Ашмяны | - 01593, |
| Валожын | - 01772, |
| Вілейка | - 01771, |
| Маладзечна | - 0176, |
| Мядзел | - 01797, |
| Смаргонь | - 01592. |

## ВІНШАВАНКА

**З 89-годдзем!**
**КАВАЛЕЎСКАЙ**
**Ядвізе Вікенцьеўне**
**з Маладзечна**



*Желаем счастья каждый день,*
*Добра от тех, кто будет рядом,*
*Улыбок нежных, как сирень,*
*И солнечных лучей в награду.*
*Но не грусти ты о годах,*
*В любых годах – и вкус, и сладость.*
*Лишь были бы всегда с тобой*
*Семья, здоровье, радость.*
*Мы желаем от души,*
*Чтобы будущие годы*
*Были также хороши,*
*Чтобы счастье и здоровье*
*Непременно рядом шли,*
*Чтобы месяцы и годы*
*Только радости несли!*
*Пусть ангел вашу жизнь хранит,*
*Ведь в жизни всякое бывает.*
*Пусть горе в двери не стучит,*
*И радость пусть не забывает.*

**Дзеці, унукі, праўнукі.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўдзі-80, 1986 г.в., 1,8 Б, пераходная. Т. (8-029) 2514346.*
- Аўдзі-80 Б3, 1988 г.в., сіні седан, 1,8 монаўпырск, 5 мкпп, г/у руля, супрацьтуманныя фары, люк, мп 3 магнітола, прабег 295000 км, 3200 у.а., торг, Вілейка. Т. (8-033) 6385724, (8-033) 6686821.
- ВАЗ 21061, 1991 г.в., бэжавы, 1400 у.а., Вілейка. Т. (8-029) 7585968.
- Дэу Нубіра, 1998 г.в., 1,6 Б, універсал, 3900 у.а., торг. Т. (8-033) 3144181.
- Дэу Ланас, 1998 г.в., 1,5 бензін, 3650 у.а., Вілейка. Т. (8-029) 3821954.
- Кія-Карнівал, 2002 г.в., 2,9 дызель. Цана і расход паліва прыемна здзівяць. Т. (8-029) 6256499, (8-033) 6020264, (8-029) 3599460.*
- Мазда 626, 1993 г.в., 2,0 дызель, колер бэжавы, цана дагаворная. Т. (8-029) 8427224, (8-029) 9337663.*
- Мерседэс Віта Трэнд, 2000 г.в., 2,2 СДІ, чорны перламутр, сядзенні трансформер, столік, абвесы, кенгуратнік, ёсць усё, акрамя скуры, выдатны стан, укладанняў не патрабуе, 13700 у.а. Т. МТС (8-029) 7783755.
- Мерседэс-309, 1988 г.в., рухавік 3,0 Д, патрабуе рамонту, 4000 у.а. Т. МТС (8-033) 6337308, Вэлком (8-029) 3169396.
- Міцубісі Лансер, 1997 г.в., 1,3, 12 V бензін, шэры металік, л/д, шмат новага, 4850 у.а. Т. (8-029) 3935524.
- Матацыкл "Днепр" МТ-10-36 і запчасткі да яго, Маладзечна. Т. (8-0176) 755769, 80299736622.
- Нісан Прэм'ера, 1997 г.в., седан. Усе опцыі, цёмна-сіні. Т. (8-029) 6692045, (8-029) 3779815, 735131.
- Опель Амега, 1991 г.в., патрабуе рамонту, на запчасткі. Т. (8-044) 7350154.
- Опель Астра, 2000 г.в., 1,7 дызель, універсал, 5950 у.а. Т. (8-029) 3449277.
- Опель Вектра, 10.1998 г.в., 1,8 Б, універсал, 148000 км, чорны металік, камп'ютар, кандыцыянер, эл/люк, фаркоп, выдатны стан, 5900 у.а. Т. (8-029) 1930416.*
- Опель Зафіра, 2002 г.в., 2,0 Д, чорны, 8999 у.а. Т. (8-029) 9820207.
- Рэно 19 Шамада, 1990 г.в., 1,4 Б па запчастках. Т. (8-033) 3363343.*
- Рэно Кліа, 2006 г.в., 1,6 бензін, прабег 89000, сіні, 9000 у.а. Т. Вэлком (8-029) 3913937, МТС (8-033) 6225424.*
- Рэно Лагуна, 2001 г.в., 1,9 дызель, хэтчбэк, новая зімняя гума, добры стан, 6900 у.а., торг, Маладзечна. Т. (8-029) 5755161.
- Рэно Ксантыя, 1993 г.в., 1,8 Б, бардовы, добры стан, 3700 у.а. Т. (8-033) 6659208.*
- Рэно Сцэнік, 1999 г.в., 1,9 ДТІ, на запчасткі. Т. Вэлком (8-044) 6653394.*
- Сітраэн Берлінга, 2001 г.в., на запчасткі. Т. МТС (8-033) 6653394.*
- Сітраэн Івазіён, 1999 г.в., 2,0 НДІ, зялёны металік, 110 кВт, салон трансформер. Т. МТС (8-029) 7013349, Вэлком (8-029) 3033349.
- Сітраэн Ксара, 1999 г.в., 1,9 турбадызель, трохдзверны х/б, цёмна-зялёны металік, добры стан, 4600 у.а., Вілейка. Т. (8-029) 3166474.
- Сузукі Балена, 2000 г.в., 1,9 турбадызель, цёмна-зялёны седан, 4100 у.а., Мядзел. Т. (8-044) 7417185, (8-029) 9412814.*
- УАЗ-469, 1985 г.в. Г.Б. раздатка і масты спраўныя, пластыкавая накрыўка, добры стан. Т. (8-029) 7095069.
- ФВ Пасат В3, 1989 г.в., 1,6 ТДІ, белы, добры стан, 3400 у.а., торг, Вілейка. Т. (8-029) 2617335.
- ФВ Пасат В4, 1994 г.в., седан, бардовы, 1,9 ТД, э/с, ц/з, сігналізацыя, г/у, 5500 у.а., торг, абмен на мінівэн, мікрааўтобус, Астравец. Т. Вэлком 3779443.
- ФВ Т-4, 1997 г.в., грузавы, 1,9 Д, не біты, выдатны стан, 9750 у.а. Т. (8-029) 5551515.*
- Фіят Тыпа, 1993 г.в., 1,6 Б, блакітны металік, 1760 у.а. Т. (8-029) 2648845.
- Форд Арыён, 1991 г.в., 1,8 дызель, серабрысты металік, 1300 у.а., торг, Маладзечна. Т. (8-025) 6521577, (8-025) 9396068.
- Форд Гэлаксі, 1996 г.в., 2,0 і, газбензін, цёмна-сіні, кандыцыянер, г/у, ц/з, фаркоп, серваруль, 7400 у.а. Т. Вэлком (8-029) 3316898.
- **ШКОДА ФАБІЯ, 2008 Г., 1,4 ТДІ, 5 ДЗВЯРЭЙ, СІНЯЯ, У РБ З КРАСАВІКА 2013 Г. ВЫДАТНЫ СТАН, СЭРВІСНАЯ КНІЖКА, 9200 У.А., ТОРГ. Т. (8-029) 6631595.***
- Гума Premiere-Карэя, 165/65/14, 4 шт., летняя, 500 000 руб., Вілейка. Т. (8-029) 2720807.
- Гума Бел-227, зімняя, 2000 км прабегу, 175/65/14, 4 шт. Кошт 1 000 000 руб., Вілейка. Т. (8-029) 2720807.
- Запчасткі б/у да ВАЗ 2108, 1993 г.в., 1,5 куб.см. Т. (8-029) 6281166.
- Запчасткі да а/м ФВ Джэта, 1,6 бензін. Т. (8-029) 6809579.*
- Па запчастках: ФВ G-4, 2000 г.в., 1,9 ТДІ, Аўдзі А-6, 2000 г.в., 2,7 БТ, АКПП, ФВ Т5, 2004 г.в., 1,9 ТД, МКПП, "МВ Vito", 2006 г.в., 2,2 СДІ, МКПП, "Suzuki Grand Vitara", 2000 г.в., 2,5 Б, МКПП, "Таёта Камры", 2003 г.в., 2,4 S, АКПП, "Honda CR-V", 2007 г.в., 2,2 ТД, МКПП, поўны прывод, "Гранд Чарокі", 2000 г.в., 4,7, АКПП. ІП Яроўскі В.І. УНП 591801368. Т. (8-029) 2658561, (8-044) 7728292.*
- Шыны 255/65/16 "Мішэлін", б/у, дыскі металічныя Р 16 5х112, літыя Р 15 4х100, б/у. Т. (8-029) 7046266.*

### КУПЛЮ

- А/м (іншамарку) не старэй 1990 г.в., да 5000 у.а. Т. Вэлком (8-044) 4871003.*
- А/м грузавы, мікрааўтобус, сельгастэхніку. Т. (8-029) 5509642.*
- А/м да 3500 у.а. Т. МТС (8-033) 3711742.*
- А/м любы, з любымі няспраўнасцямі, забяру сам. Т. Вэлком (8-029) 9164963.*
- **А/М** на хаду, можна з дэфектамі. Т. (8-029) 9961242.*
- А/м у любым стане, можна аварыйны ці на запчасткі, тэрмінова. Т. (8-029) 7088846.*
- А/м у любым стане, можна на запчасткі. Т. МТС (8-029) 7703397.
- **А/М У ЛЮБЫМ СТАНЕ. ДОРАГА! Т. (8-044) 7601222.**
- А/м у любым стане. Т. Вэлком (8-029) 9961242, МТС (8-029) 7918210.*
- А/м у любым тэхнічным стане на хаду, Мінскі р-н. Т. (8-029) 1231245.*
- Будку ізатэрму на Газэль. Т. 772330, (8-033) 6650561.*
- Іншамарку ў любым стане. Т. МТС (8-029) 5036715, Вэлком (8-029) 6036715.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 6 мкр., 1 паверх 5-павярховага панельнага дома, 38,1/17,5/8,8, санвузел раздзельны, кладоўка 1,8, падвал. Т. (8-0176) 74-48-83, Вэлком (8-029) 3671871.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Турэц-Баярах, Маладзечанскі р-н, 5-паверх. Т. (8-029) 6858882, (8-025) 9041374.*
- 2-пакаёвая кватэра па вул.Ясінскага, 9, агульная плошча 40,9 кв.м. Т. (8-029) 6553816.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул.Незалежнасці, 47,2 кв.м, 2-паверх, 35000 у.а. Т. (8-029) 7482397.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, прыватны сектар, водаправод, каналізацыя, вул.Чырвонаармейская, 59, 12000 у.а. Т. (8-033) 3103661.
- 2-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, м-н Карані, 5/5 паверх. Т. (8-029) 9356465.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, м-н Карані. Т. (8-029) 5595107.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул.Гагарына. Т. МТС (8-033) 3209338.
- 3-пакаёвая кватэра ў цагляным доме, 5-паверх у р-не Зеніт. Т. (8-029) 2713904.*
- 3-пакаёвая кватэра, 5/5, 8,8х39х61,3, добры рамонт, 2 шафы-купэ, магчымы абмен на дом. Т. (8-029) 5644936.*
- 3-пакаёвая кватэра, 64/40/9 (кухня), вул.Замкавая, рамонт, падвал, 1 паверх, высокі, сігналізацыя, 52000 у.а., тэрмінова. Т. (8-017) 256-2744, (8-029) 6888111.*
- 3-пакаёвая кватэра, вул.Камарова, 9. Т. (8-029) 7614541, (8-01771) 55154.
- Гараж у ГБК-2 у Вілейцы, яма, падлога драўляная, падшытая столь. Т. (8-029) 5537683.*
- Гандлёвы павільён у Вілейцы, вул.Гагарына, р-н Зеніт, насупраць крамы № 26, ці здам у арэнду. Т. (8-029) 5314310.*
- Гараж у ГБК-2, памер 6х6 м, вышыня варот 2,45 м, яма. Т. (8-029) 5671339.
- Гараж у ГБК-3, вул.Незалежнасці. Т. (8-029) 5041943.
- Гараж у ГК-1 у Вілейцы, цэгла, перакрыцце ж/б, ацяпленне, 21,7 кв.м, падвал 21 кв.м. Т. (8-029) 7004377.*
- Гараж у ГК-30. Т. (8-029) 7108010.*
- Дача з мансардай, пліта-печка, мэбля, лазня, свая калонка, сад, лес, Вілія, у чыстым маляўнічым месцы. Т. (8-029) 8008906.
- Дача ў в.Белая Смаргонскага р-на (лазня, хлеў, калодзеж), 19000 у.а. Пчолы з вуллямі. Т. (8-029) 3800479.
- Дача ў в.Прынта, 15 км ад Вілейкі, ацяпленне пячное, 7 сотак, калодзеж, побач рэчка, лес, нядорага. Т. (8-033) 3140646.*
- Дача ў в.Прынта, 15 км ад Вілейкі, пячное ацяпленне, цагляны хлеў, калодзеж, лес, побач рака. Т. (8-029) 8597408.
- Дача, 4 км ад горада. Т. Вэлком (8-029) 6593250.
- Дачны ўчастак з драўляным домам, 5,5х2,5, магчыма пад знос. Т. (8-044) 5920090.
- Дом драўляны ў в.Зарудзічы, склеп, гаспабудовы, 40 кв.м, 10 сотак. Т. (8-029) 5559581.
- Дом драўляны ў г.п.Свір, Мядзельскі р-н, плошча 70 кв.м, 20 сотак зямлі, у двары калодзеж, ёсць фруктовыя дрэвы і кусты, праз дарогу возера, цана дагаворная. Т. Вэлком (8-029) 9405016, МТС (8-029) 8476929, дом. (8-01797) 42616.
- Дом у а/г Жодзішкі, Смаргонскі р-н, усе выгоды. Т. (8-033) 6574515.
- Дом у в.Ілья, Вілейскі р-н. Т. (8-033) 8587648, 76653.
- Дом у п.Беразінскае, 6х12, 25 сотак зямлі, газ, водаправод побач, 10000 у.а., торг. Т. (8-0176) 725959.
- Дом у в.Ганькавічы, Валожынскі р-н. Т. (8-0176) 755676, (8-029) 7630094.
- Дом у в.Грыцукі, Вілейскі р-н, 4000 у.а. Т. (8-029) 5608451.*
- Дом у в.Літва, дом 112, Маладзечанскі р-н (65,2 кв.м, 0,23 га). Т. (8-029) 9543932.*
- Дом у в.Мароські, недалёка лес, побач вадаём, 6000 у.а. Т. 720002.*
- Дом у в.Прынта, Вілейскі р-н, побач рака, лес. Участак 0,17 га. Т. (8-029) 7666137, (8-029) 7029649.*
- Дом у в.Трыгузі, 25 сотак, драўляны, трухлявы, калодзеж, хлеў, сад, склеп, 15 км ад Маладзечна, 2500 у.а. Т. МТС 2631449.*
- Дом у Вілейскім р-не, 25 сотак зямлі, рэчка 50 м ад дома, лес побач, 14000 у.а., торг. Т. (8-029) 3601179, 80447281605.
- Дом у Вілейцы з гаспабудовамі. Т. (8-033) 3020274.*
- Дом у Маладзечне, вул.Някрасава, 61. Газ, вада, цэнтральная каналізацыя. Т. (8-029) 7095491.*
- Катэдж у Вілейцы з усімі выгодамі. Т. (8-029) 1331698, (8-029) 7668419, (8-029) 7747571.*
- Катэдж у Смаргоні без унутранай аздзелкі, 167 кв.м, святло, вада, газ побач, металачарапіца, шклопакеты, агароджа з каменю, гаспабудовы, сад. Вадаём, 900 м, 45000 у.а. Т. (8-029) 6353589, (8-029) 6080883.*
- Паўдома ў Вілейцы, вул.Чырвонаармейская, 63. Водаправод, каналізацыя, 12500 у.а., тэрмінова. Т. (8-033) 3103661.
- Зруб дома на вываз, Вілейскі р-н. Т. (8-029) 2472874.



## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце RH.by*

